ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

ГОД XXXIII, № 320 Нью Ёрк — Чырвень — 1984 — June — New York Vol. XXXIII, № 320

## СОРАК ГАДОЎ ТАМУ

Улетку сёлета мінае 40 год ад тых гістарычных падзеяў на Беларусі, якія змусілі шмат каго зь Беларусаў выбраць эвакуацыю й Чужыну перад аднаўленьнем бальшавіцкага панаваньня. Савецкая прапаганда кваліфікуе гэтых людзей як „калябарантаў" і „здраднікаў". Але, калі палітычны й арганізацыйны актывізм у часе нямецкае акупацыі Беларусі называць „калябаранцтвам", дык „калябарантамі" ў большай ці меншай ступені былі ўсе — або нямецкімі або маскоўскімі. Не-„калябарантам" быў адно той, хто нічога не рабіў.

Нямецкая акупацыя й вытвараны вайной палітычны вакуум давалі Беларусам магчымасьць, мала таго — ускладалі на іх маральны абавязак працаваць на карысьць ідэі нацыянальнае свабоды й дзяржаўнае незалежнасьці свайго краю.

Трохгадовая нямецкая акупацыя была выкарыстаная дзеячамі беларускага нацыянальнага фронту, каб наладзіць сваю адміністрацыю, арганізаваць школьніцтва, культурныя ўстановы, адбудаваць зьнішчанае бальшавіцкімі акупантамі рэлігійнае жыцьцё, змабілізаваць, наколькі можна, ўзброеныя сілы дзеля самаабароны.

Нямецкія акупацыйныя ўлады дзеілі ў сваіх інтарэсах, якія ня былі інтарэсамі жыхарства заваяванае тэрыторыі, Беларусы мусілі бараніцца на колькі франтоў і даваць рады самыя сваім патрэбам у вельмі цяжкіх і небясьпечных умовах вайны. Лясныя прасторы Беларусі поўніліся адмыслова вышкаленымі й закінутымі Масквой бандамі чэкістаў, з аднаго боку, ды польскіх рэваншыстаў з Арміі Краёвае — з другога. І адныя і другія грабілі сялянаў, забівалі беларускіх сьвятароў, настаўнікаў, культурных працаўнікоў, вынішчалі сем'і актыўных Беларусаў, правакавалі Немцаў на рэпрэсіі беларускага жыхарства.

У выніку няўдачаў на ўсходнім фроньце ўзімку 1942-43 гадоў і ў сувязі зь неэфэктыўнасьцяй нямецкіх карных экспэдыцыяў супраць бальшавіцкіх партызанаў, акупацыйныя ўлады на Беларусі пачалі траціць кантроль над палажэньнем і змушаныя былі перадаць частку адміністрацыі ў рукі беларускага нацыянальнага актыву. Напрыканцы 1943 году была сфармаваная Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР), на чале якое стаў праф. Радаслаў Астроўскі.

На працягу першае палавіны 1944 г. БЦР пераняла на цэнтральнай тэрыторыі Беларусі агульную адміністрацыю, стварыўшы ў шэрагу гарадоў свае намесьніцтвы, а таксама аддзелы асьветы й культуры, веравызнаньняў, сацыяльнага забясьпечаньня ды абвесьціла мабілізацыю ў Беларускую Краёвую Абарону (БКА). Заданьнем БКА было бараніць беларускае, асабліва селавое, жыхарства ад нападаў партызанскіх бандаў.

Дзейнасьць БЦР суправаджалася арганізацыяй і працай Беларускага Культурнага Згуртаваньня, Беларускага Навуковага Таварыства, Афіцэрскай Школы БКА. А на 27 чырвеня 1944 г. быў скліканы Другі Ўсебеларускі Кангрэс, які пацьвердзіў пастановы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ды заклікаў беларускі народ да далейшага змаганьня за свае правы.

У Менскім Гарадзкім Тэатры 1039 дэлегатаў з часткі беларускіх земляў і 16 прадстаўнікоў ад беларускіх арганізацыяў паза межамі Беларусі сказалі чароднае слова на шляху адраджэньня й адбудовы Беларускае Дзяржаўнасьці.

Адзначаючы 40-я ўгодкі гэтае падзеі, падаём ніжэй некаторыя мясьціны з прамоваў і дакумэнтаў, заслуханых і прынятых Кангрэсам.

Адчыняючы Другі Ўсебеларускі Кангрэс, ягоны старшыня **Яўхім Кіпель** сказаў:

„Мы сабраліся у надзвычайна адказны гістарычны мамэнт: на ўсім сьвеце ідзе вайна, вырашаецца лёс народаў на доўгія гады. Беларусь цяпер ня можа заставацца бязьдзейнай. Мы мусім самі ўзяцца за будаўніцтва свае будучыні.

„Ад нашага імя дазваляюць сабе гаварыць крамлёўскія заправілы, яны там вызначаюць апякуноў, якія ўжо рыхтуюць шыбеніцы нашаму народу. На нашы зямлі прэтэндуюць польскія паны.

„І вось таму ў гэты час мы павінны голасна сказаць усяму сьвету, хто мы і чаго мы хочам! (Бурныя воплескі).

„Першы раз беларускі народ меў магчымасьць вольна сабрацца тут у Менску, у гэтым будынку, дваццаць шэсьць гадоў таму назад.

„Гэта быў Першы Ўсебеларускі Кангрэс. Ён выбраў Раду Кангрэсу, якая у 1918 годзе 25 сакавіка вынесла свае агністыя пастановы аб лёсе Беларусі і беларускага народу. Не спадабаліся пастановы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу і ягонай Рады бальшавіком, яны разагналі гэты Кангрэс і на працягу дваццаці шасьцёх гадоў аблівалі яго пастановы ня толькі памыямі і гразёю, а нават крывёю лепшых сыноў нашага народу. Аднак, сваімі бруднымі і подлымі ўчынкамі бальшавікі ня здолелі зацьміць пастановаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу — яны зіхацяць аж па сёньняшні дзень і вабяць да сябе ўсё лепшае, што ёсьць у беларускім народзе.

„Паважаныя спадары, будзем-жа і мы такімі самаахвярнымі і мудрымі, як тыя, што склікалі Першы Кангрэс. Будзем памятаць, што вораг наш зрабіўся яшчэ больш лютым, яшчэ больш подлым. Ён не адкідае ніякіх сродкаў для дасягненьня сваіх мэтаў, а гэта вымагае ад нас асаблівай аб'ектыўнасьці, асьцярожнасьці і ўмеркаванасьці пры вырашэньні нашага нацыянальнага пытаньня"...

Праф. Р. Астроўскі, прэзыдэнт БЦР, гаворачы пра мэты Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, таксама паклаў націск на ідэі й мэты, выказаныя Першым Усебеларускім Кангрэсам. У абставінах фашысцкае акупацыі, асабліва ў 1944 годзе, калі Трэйці Райх апаноўвалі ўжо сударгі паразы, было небясьпечна выстаўляць адкрыта пастуляты поўнае дзяржаўнае незалежнае Беларусі. Але жаданьні гэтыя былі ўсё-ж выказаныя ўдзельнікамі Другога Кангрэсу падкрасьляньнем важнасьці Кангрэсу 1917 году. Гэтак, Прэзыдэнт Астроўскі сказаў:

„Адным з найвялікшых здарэньняў у гістарычным мінулым Беларусі быў Першы Ўсебеларускі Кангрэс у 1917 годзе, які распачаў сваю працу якраз у гэтым самым слаўным тэатры, ды які вуснамі ўсіх сваіх лепшых сыноў — прадстаўнікоў з усяе Беларусі заявіў усяму сьвету аб сваёй волі і імкненьнях.

„І хоць бальшавікі разагналі Кангрэс збройнаю сілаю, аднак Рада Кангрэсу і Сакратарыят, а таксама ўсе дэлегаты Кангрэсу, разьехаўшыся па ўсёй Беларусі, яшчэ дакладней акрэсьлілі і пашырылі ў масах белрускага народу ідэю вызвольнага руху, якая пэратрывала, не зважаючы на 25-гадовую няволю, аж да сёньняшняга дня.

„Пазьнейшы вялікі акт народнай волі, абвешчаны 25-га сакавіка 1918 г., быў нацыянальным тэстамэнтам для ўсіх наступных пакаленьняў. За ажыцьцяўленьне гэтага тэстамэнту сёньня ўжо змагаюцца не адзінкі, ня групы ці паасобныя партыі, а літаральна ўвесь беларускі народ.

„Я асабіста, як удзельнік Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, вельмі шчасьлівы сёньня, што на маю долю прыпала чэсьць склікаць і адчыніць гэты Другі Ўсебеларускі Кангрэс, які, выконваючы тэстамэнт папярэдніх пакаленьняў, павінен выказаць таксама на ўвесь сьвет свае адносіны да тых бяспраўных пастановаў, якія былі вынесены нашымі ворагамі, учыніўшымі найбольш ганебны гвалт над воляю беларускага народу.

„Права на жыцьцё, дадзенае чалавеку Богам, не павінна адбірацца ніякім гвалтам, ніякаю брутальнаю сілаю. Нажаль, людзі, маючы вольную волю, гэтае права не шануюць. На працягу ўсяе гісторыі чалавецтва адбываецца пэрыядычнае фізычнае вынішчэньне людзей. На шчасьце, ніякая сіла яшчэ ня здолела зьнішчыць чалавечую думку. Дух чалавека, а тым больш дух народу зь яго найвышэйшым ідэалам — несьмяротны і неперамажны. Можна пры помачы фізычнае сілы чыніць гвалт і несправядлівасьць, можна пэўны час зьдзекавацца і крыўдзіць нявінных, але рана ці позна праўда перамагае і справядлівасьць запаноўвае ўсяўладна".

Віцэ-прэзыдэнт БЦР Мікола Шкялёнак, прадстаўляючы да разгляду Кангрэсу дакумэнт аб уневажненьні польска-бальшавіцкіх дагавораў што да Беларусі, заявіў:

„У часе вайны, калі грымяць гарматы і льлецца навакол кроў, а адзіным прадстаўніком права зьяўляецца меч, можа выдавацца справай малаважнай займацца ўмовамі і пастановамі, хоць-бы і з галіны міжнародных дачыненьняў, але якія страцілі ўжо сваю актуальнасьць, значаньне і праўную сілу, дзякуючы зьменам, што прынясла вайна. Бо гэта, звычайна, ужо дакумэнты, якім месца ў архіве і якія могуць быць у большай ці меншай меры цікавымі перадусім толькі для гісторыка. З нашага гледзішча гэткімі архіўнымі дакумэнтамі зьяўляюцца розныя польска-бальшавіцкія дагаворы, аб'ектам якіх была тэрыторыя Беларусі і яе народ. І гэта з дзьвюх прычынаў:

„1. Гэткія дагаворы былі зробленыя бяз нашага ўдзелу, накіненыя гвалтам і ўжо бадай таму мы ня можам прызнаць ім у дачыненьні да нас праўнае сілы. Практычна, зразумела, мы змушаныя былі мець іх на ўвазе, бо выкананьне іх гарантавала сіла, але па сваёй істоце яны былі разглядаяны намі заўсёды — як акты гвалту, і ніколі — як акты, у васнове якіх ляжала права.

„2. З другога боку, вайна зьмяла з нашых земляў стары польска-бальшавіцкі дзяржаўны лад і стварыла на яго руінах магчымасьці пабудовы новага, у якім Беларускі Народ хоча быць і будзе ўжо не аб'ектам, а суб'ектам права. (Воплескі).

„Гэта пацьвярджала-б вышэй выказаную думку, што польска-бальшавіцкія дагаворы што да Беларусі могуць ужо фактычна быць прадметам зацікаўленьня толькі дасьледчыка. І мы перакананыя, што яны ніколі не набудуць у дачыненьні да Беларусі сваёй папярэдняй моцы".

Сябра БЦР Аўген Калубовіч у рэфэраце „Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах" сказаў:

„Як і ў 1917 годзе, мы ізноў сабраліся на Ўсебеларускі Кангрэс. Воляю лёсу мы ізноў маем магчымасьць, аглянуўшыся на пройдзеную дарогу, разважаць аб нашым сяньня і выбраць дарогу ў заўтра. Толькі ўлічыўшы гісторыю мінулага, можна найбольш правільна вырашыць аб будучыні, пазьбягаючы

**(Заканчэньне на б. 2-й)**

## 3-ЦІ ЗВЫЧАЙНЫ САБОР БАПЦ



**Мамэнт архірэйскае багаслужбы ў часе 3-га Звычайнага Сабору БАПЦ 27 травеня 1984 году.**



**Першы Гіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай, духавенства, вернікі й госьці на багаслужбе ў царкве Божае Маці Жыровіцкае ў Гайленд Парку, Н. Дж., перад будынкам царквы ў часе 3-га Звычайнага Сабору БАПЦ 27 травеня 1984 году.**

26-27 травеня 1984 г. ў царкве Божай Маці Жыровіцкае ў Гайленд Парку ў штаце Нью Джэрзы (ЗША) адбыўся Трэйці Звычайны Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. На Саборы былі прадстаўленыя 7 парафіяў БАПЦ з агульнага ліку 12-х. Дзьве парафіі з 12-х ўстрымаліся ад удзелу ў Саборах у сувязі з судовымі справамі ў БАПЦ.

На 3-ім Звычайным Саборы БАПЦ былі прадстаўленыя парафіі амэрыканскія: ў Гайленд Парку, Н. Дж. (2 дэл.), Іст Дэтройце, Міч. (2 дэл.), Кліўленьдзе, Агаё (2 дэл.), Брукліне, Н. Ё. (2 дэлегаты), Дораты, Н. Дж. (2 дэл.), Барбэртоне, Агаё (паўнамоцтва ад а. А. Радэнковіча), і канадзкая ў Тароньце (2 дэл.).

Удзельнікі Сабору былі: епіскап, чатырох сьвятароў, 13 дэлегатаў і 4 сяброў Рады БАПЦ, выбраных на 2-ім Саборы БАПЦ у 1972 годзе. Гэткім парадкам, вымогі Статуту БАПЦ што да патрэбнага кворуму былі задавольненыя, 3-ці Сабор БАПЦ быў правамоцным.

Нарады 3-га Сабору адчыніў Архіепіскап БАПЦ Мікалай. У прэзыдыюм увайшлі: Мітраф. Прат. а. Карп Стар, а. Аляксандар Яноўскі, мгр. Васіль Пляскач ды, як сакратары, а. Міхал Страпко і інж. Васіль Русак.

У склад Мандатнае Камісіі Сабору былі выбраныя: а. Аляксандар Яноўскі, др. Уладзімер Бакуновіч і сп. Мікола Ганько.

Сабор разгледзеў сучасны стан БАПЦ, абраў кіруючыя й кантрольныя органы — Раду БАПЦ, Рэвізійную Камісію й Кансысторыю — ды прыняў некаторыя папраўкі да Статуту БАПЦ. У рэзалюцыях Сабору накрэсьлены кірунак далейшае дзейнасьці, у якой адным з галоўных пунктаў будзе дасягненьне нутраное згоды ў БАПЦ.

На становішча Першага Гіерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы быў аднадушна абраны Архіепіскап Мікалай.

Дакладнейшыя весткі аб працы Сабору будуць зьмешчаныя ў наступным нумары „Беларуса".

## XVI-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

**1-3 верасьня 1984 г.**
**у Кліўленьдзе, Агаё, ЗША**

У часе Сустрэчы адбудуцца:

1. Адзначэньне 35-годзьдзя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Згуртаваньня Беларусаў Канады
2. Другая Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў у Вольным Сьвеце
3. Зьезд Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі
4. Канфэрэнцыя аб дасьледаваньні гісторыі беларускае эміграцыі

**Сыбота, 1 верасьня:**

7 - 12 гадзіна ўраньні: падняцьце сьцягоў; рэгістрацыя й разьмяшчэньне
12:00 дня: зьезд Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі
1:00 папаўдні канфэрэнцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва — Дасьледаваньне гісторыі беларускае эміграцыі
3:00 папаўдні: сустрэча Вэтэранаў
5:00 папаўдні: спартовыя змаганьні
9:00 увечары: вечарына

**Нядзеля, 2 верасьня:**

9:30 ураньні: багаслужба ў царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ
1:30 папаўдні: **банкет**
4:00 папаўдні: **канцэрт**
7:00 увечары: высьвятленьне беларускіх фільмаў
9:00 увечары: вечарына

**Панядзелак, 3 верасьня:**

8:30 ураньні: нарады БАЗА, ЗБК ды іншых арганізацыяў
10:00 ураньні: ад'езд дэлегатаў Сустрэчы

Бальшыня імпрэзаў Сустрэчы адбудуцца на селішчы Полацак.

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне й Згуртаваньне Беласусаў Канады ветліва запрашаюць усіх Суродзічаў узяць удзел у Сустрэчы.**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## СОРАК ГАДОЎ ТАМУ

(Заканчэньне з б. 1-й)

няўдачаў і памылак мінулага. (...) „Кожнаму з нас зразумела, што для таго, каб паставіць тут пытаньне аб канчальным разрыве з Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах, мы абавязаныя перадусім агляну́цца назад на перажытае нашым народам у СССР, ацаніць гэты адрэзак часу гісторыі, высьветліць, што прынесла маскоўска-бальшавіцкая ўлада нашай бацькаўшчыне, і ці ёсьць сэнс нам патрэба і надалей жадаць савецкай улады і быць зьвязанымі з Савецкім Саюзам. (...)

„Мы сьцьвярджаем, што ўсякі голас Масквы ў беларускіх справах павінен уважацца... за ня маючы ніякай праўнай сілы, а твораныя Масквою нібы беларускія ўрады — ніякіх праўных кампэтэнцыяў.

„Да гэтага канчальнага разрыву з Масквою клічуць нас косьці загубленых ёю 1.800.000 найлепшых сыноў нашага народу. Да гэтага клічуць нас пралітыя ёю рэкі сьлёзаў і крыві нашага народу. Кожная кропля гэтай нявіннай крыві пякучым агнём гарыць у нашых сэрцах і кліча да помсты. Гэтага патрабуюць ад нас нават каменьні ад разбураных бальшавікамі нашых сьвятыняў і помнікаў".

Другі Ўсебеларускі Кангрэс закончыў сваю працу аднагалосным прыняцьцём рэзалюцыі, першым і найгалоўнейшым пунктам якое было:

**„Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, маючы паўнамоцтвы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г., на сваім сходзе 25 сакавіка 1918 г. ўрачыста 3-й Устаўной Граматай выращыла аб канчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкаю Масквою і расейскай дзяржавай у ўсіх яе формах".**

### МЭМАРАНДУМ КАМІТЭТУ АБАРОНЫ

Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі выслаў Камісіі Злучаных Штатаў да Справаў Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе (Камісія сочыць за ўжыцьцяўленьнем Гэльсынкаўскіх пагадненьняў 1975 году) мэмарандум зь пералікам выпадкаў рэлігійнага перасьледу ў Беларусі на працягу апошніх трох зь лішнім гадоў. У дакумэньце, датаваным 18 чырвеня 1984 г., на пяцёх старонках машынапісу падаюцца факты аб перасьледаваньні веруючых, пра якія сталася ведама з розных афіцыйных савецкіх і несавецкіх крыніцаў.

У мэмарандуме пішацца аб узмацненьні антырэлігійнае кампаніі ў БССР ды называюцца прозьвішчы эвангелісткі Тамары Баяроўскае зь Вільні, праваслаўнага дыякана Ўладзімера Русака, баптысткі Галіны Вільчынскае, іншадумца Міхала Кукабакі, праваслаўнага сьвятара Ёсіфа Рынкевіча, пададзеныя таксама прозьвішчы 44-х асобаў зь Беларускае ССР, пераважна баптыстаў, якія падпісалі ў 1982 годзе пэтыцыю да Генэральнага Сакратара ААН, каб ім было дазволена выэміграваць з Савецкага Саюзу.

Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі зварачаецца праз газэту „Беларус" з просьбай да ўсіх прысылаць яму сьвежыя весткі пра факты перасьледу ў БССР або Польшчы за рэлігійныя, палітычныя ці нацыянальна-культурныя перакананьні. Слаць матар'ялы можна або на адрыс газэты „Беларус" або на адрыс Камітэту:
CDPCB, 187-06 Hillside Avenue, Jamaica, N. Y. 11432, U.S.A.

### ЛАЮЦЬ НЯБОЖЧЫКАЎ

„Сельская газета" ў нумары за 6. V. 1984 г., у рубрыцы „На атэістычныя тэмы" (арт. спэцкарэспандэнта В. Андрыевіча) тлумачыць паўстаньне й дзейнасьць ў Столінскім раёне на Гарадзеншчыне абшчыны баптыстаў (якія, піша карэспандэнт, „перарадзіліся" ў баптыстаў зь пяцьдзясятнікаў) тым, што заснавалі яе „Амэрыканец зь мясцовых эмігрантаў", а цяпер натхняюць замежныя радыёстанцыі, („Радыё Ватыкан", „Радыё Монтэ-Карлё", „Голас Амэрыкі" ды іншыя).

Газэта згадвае „часапіс „Божым Шляхам'" і ксяндза Льва Гарошку, а таксама радыёстанцыі „Вольная Эўропа" й „Свабода", на якіх, паводля газэты, „адным зь кіраўнікоў зьяўляецца здраднік Станкевіч".

Айцец Леў Гарошка памёр у 1977-м, а др. Станіслаў Станкевіч — у 1980 годзе. Др. Станкевіч супрацоўнічаў з радыёстанцыяй „Свабода", але ніколі ня быў ані еіным „кіраўніком", ані навет штатным супрацоўнікам.

### АДОЗВА БВФ НА ЎГОДКІ 2-ГА КАНГРЭСУ

Начальнік Генэральнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіч выдаў з нагоды 40-х угодкаў Другога Ўсебеларускага Кангрэсу адозву, у якой сказана:

„У гэты памятны Дзень узмоцнена прызываю ўсіх суродзічаў і беларускія арганізацыі ў вольным сьвеце матэр'яльна дапамагчы Беларускаму Нацыянальнаму Фонду і Беларускаму Вызвольнаму Фронту, каб нашы прадстаўнікі маглі і далей прымаць чынны ўдзел у міжнародных канфэрэнцыях, годна рэпрэзэнтаваць Беларускую Вызвольную Ідэю, бараніць на сусьветным форуме асноўныя правы нашага народу, патоптаныя акупантам нашай Бацькаўшчыны...—Жыве Беларусь!"

### ПРОСЬБА ДА ПРЭЗЫДЭНТА ЗША

У лісьце да Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага (з подпісам сакратара К-ту сп-ні Веры Рамук) папрасіў урад Злучаных Штатаў падбаць, каб амэрыканска-савецкі культурны абмен улучаў у сябе, з савецкага боку, азнаямленьне Амэрыканцаў з культурай **усіх нерасейскіх** рэспублікаў СССР, а ня толькі, як гэта блізу выключна было дасюль, з культурай расейскага народу.

### ТРЫ КАТЭГОРЫІ ВОРАГАЎ

Беларускі савецкі журналіст Уладзімер Бягун, фэльетоны якога зьяўляліся найбольш на старонках газэты „Голас Радзімы", напісаў кніжку „Ярмарка предателей" (выд. „Беларусь", Менск, 1983). Часапіс „Коммунист Белоруссии" (№ 4, 1984) у рэцэнзіі на Бягунову кніжку (рэцэнзэнт праф. А. Малашка) піша:

„Галоўная ўвага засяроджаная на выкрыцьці трох відаў эміграцкіх падонкаў — беларускіх буржуазных нацыяналістаў, рэакцыйных клерыкалаў-антысаветчыкаў і сыяністыхх правакатараў". (б. 94).

„У Бягун, — піша далей рэцэнзэнт, — выкрывае хлусьлівую існасьць антысаветчыкаў-клерыкалаў, што дзейнічаюць на радыёстанцыях ЦРУ і Ватыкану, іхныя дамоўныя намаганьні прыкрыць адзеньнем „сьвятасьці й патрыятызму" рогі й капыты абанкручаных буржуазных нацыяналістаў..."

Праф. Малашка ня зусім аднак перакананы, што Бягун не перагнуў палкі ў сваім бічаваньні ворага. „У працы У. Бягуна, — зазначае далікатна рэцэнзэнт, — на наш пагляд, сустракаюцца некаторыя „перавыдаткі' іроніі, сарказму ды іншых публіцыстычных прыхватак, якія пры выкладаньні паасобных сюжэтаў можна было-б выкарыстоўваць больш эканомна". (б. 95).

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „Б Е Л А Р У С А"**

## ЗЬЕЗД РЭСПУБЛІКАНСКІХ ГРУПАЎ АМЭРЫКІ

Чатырнаццаты гадавы зьезд Рады Рэспубліканскіх Нацыянальных (Этнічных) Групаў (РРНЭГ) адбыўся ў Вашынгтоне 18-20 травеня 1984 году.

Да РРНЭГ належаць больш за 38 нацыянальных фэдэрацыяў, уключаючы Беларуска - Амэрыканскую Рэспубліканскую Фэдэрацыю, якая аб'ядноўвае 10 Рэспубліканскіх Клюбаў з розных штатаў Амэрыкі.

Ад Бэларуска-Амэрыканскае Фэдэрацыі на зьезьдзе былі сп. В. Мельяновіч, старшыня Фэдэрацыі, сп. Я. Раковіч і сп. К. Мярляк, як дэлегаты, ды тры заступнікі: сп-чна Р. Станкевіч, сп-ня Д. Мельяновіч і сп. А. Сацэвіч.

Сёлетні зьезд РРНЭГ адбыўся пад лёзунгам „Свабода" ды быў скіраваны на правядзеньне выбарчай кампаніі „Рэйган-Буш 1984".

На працягу трох дзён адбылося колькі розных мітынгаў, паседжаньняў і канфэрэнцыяў. Адзначым тутака толькі важнейшыя мамэнты.

У першы дзень зьезду на паседжаньне Рады РНЭГ, у якім узялі ўдзел дэлегаты беларускае Фэдэрацыі, была разгледжаная праграма й узгодненьы прабег зьезду. Зараз-жа пасьля гэтага дараднік Дзяржаўнага Дэпартаманту сп. Эдвард Дэрвінскі зрабіў даклад аб сучаснай замежнай палітыцы Злучаных Штатаў у Цэнтральнай Амэрыцы, на Блізкім Усходзе і ў дачыненьні да Савецкага Саюзу, асабліва ў сувязі зь інтэрвэнцыяй у Афганістане.

Дакладчыку задаваліся пытаньні. Сп. В. Мельяновіч папытаўся: „Чаму Дзяржаўны Дэпартамант супрацівіцца ўвядзеньню беларускае мовы ў перадачы ,Голасу Амэрыкі'?" На што сп. Дэрвінскі адказаў: „Дзяржаўны Дэпартамант ня мае нічога супольнага з ,Голасам Амэрыкі', Усе пытаньні павінны быць скіроўваныя да ,Голасу Амэрыкі' ".

Па абедзе ўсе дэлегаты пабылі на Фэстывалі Нацыянальнасьцяў, у якім выступалі галоўна групы розных народаў Далёкага Ўсходу.

А гадзіне другой папаўдні зьезд быў афіцыйна адчынены ў прысутнасьці прадстаўнікоў Белага Дому ды іншых урадавых установаў.

Галоўнай падзеяй гэтага дня была прэсканфэрэнцыя для этнічнага друку, якую даў старшыня Нацыянальнага Камітэту Рэспубліканскае партыі Фрэнк Фарэнкопф. Сп. Фарэнкопф, а таксама прадстаўнікі Белага Дому й Рады РНЭГ адказалі на пытаньні пра замежную палітыку ЗША ды сёлетнія прэзыдэнцкія выбары.

У сыботу 19-га травеня быў праведзены палітычны сэмінар на тэму „Выбарчая кампанія 1984 году" з удзелам сяброў Рэспубліканскага Нацыянальнага Камітэту.

На паабедзенай сэсіі ў сыботу была аднадушна прынятая агульная рэзалюцыя, апрацаваная др. Тышнянам (Армянін з Бостану), якая поўнасьцяй задавальняла ўсіх дэлегатаў.

Увечары тага-ж дня адбыўся банкет зь вялікім удзелам гасьцей і дэлегатаў. На банкеце галоўным прамоўцам быў былы губэрнатар штату Масачусэтс Джон Вольпэ.

Падчас банкету сп. К. Мярляк меў нагоду гутарыць з дырэктарам радыёстанцыі „Голас Амэрыкі" сп. Кэнэтам Томлінсонам. Галоўнай тэмай гутаркі была справа беларускай мовы ў „Голасе Амэрыкі". Томлінсон сказаў, што ён азнаёмлены з пытаньнем беларускае мовы ў „Голасе Амэрыкі" і што ўвядзеньне беларускіх перадачаў не залежыць толькі ад яго, але й ад Дзяржаўнага Дэпартаманту і, калі ход пра грошы, ад Кангрэсу. Сп. Мярляк заначыў, што на гэтым зьездзе сп. Э. Дэрвінскі, дараднік Дзяржаўнага Дэпартаманту, адказваючы на пытаньне сп. В. Мельяновіча, заявіў, што Дзяржаўны Дэпартмэнт не стаіць на перашкодзе беларускіх перадачаў і што „Голас Амэрыкі" незалежная ўстанова. А што да фінансаў, дык калі хапае іх на пашырэньне іншых перадачаў, то павінна хапіць і на ўлучэньне беларускіх. Сп. Томлінсон адказаў: „Я разумею вашае цяжкое палажэньне, але раджу настойліва дамагаца, асабліва ў Кангрэсе, каб на гэта былі прызнаныя грошы".

У нядзелю 20-га травеня адбылося супольнае сьнеданьне, прысьвечанае жанчынам, на якім прамаўляў прэзыдэнцкі дараднік сп. Лын Гофзікэр. Галоўнай-жа падзеяй гэтага дня было прыняцьце ў Белым Доме. Дзеля познае гадзіны дэлегаты Беларускае Рэспубліканскае Фэдэрацыі пакінулі Вашынгтон, а толькі застаўся сп. К. Мярляк. Ён і рэпрэзэнтаваў Беларусаў у Белым Доме.

Багатае прыняцьце адбывалася у адной із прыёмных заляў, у якую а 5-ай гадзіне прышоў Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі Рональд Рэйган зь Першай Лэйды. У сваім прывітальным слове Прэзыдэнт адзначыў уклад этнічных групаў у разбудову Амэрыкі ў кожнай галіне жыцьця. Гэта, сказаў Прэзыдэнт, дае гарантыю на лепшую будучыню Амэрыкі ды надзею на вольнае жыцьцё тым народам, якія сяньня знаходзяцца пад чужым панаваньнем.

Пасьля дэлегаты мелі нагоду прадставіцца ды прывітацца з Прэзыдэнтам і сп-няй Рэйган.

## РАДА ЭТНІЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ КАНАДЫ

Дзеля ўжыцьцяўленьня абвешчанай у 1971 г. Прэм'ерам Трудо палітыкі шматкультуралізму, у 1973 годзе была створаная урадам у складзе 100 чалавек Канадзкая Кансультатыўная Рада для Шматкультуралізму. Хоць у гэтай Радзе былі прадстаўнікі хіба што ўсіх этнічных групаў, ды ўсё-ж некаторыя лідэры этнакультурных групаў лічылі, што этнічныя арганізацыі павінны стварыць сваю раду, выпрацаваць сваю праграму й ставіць ураду свае дамаганьні ў справе Шматкультуралізму. І гэтак, у 1980 годзе ў Атаве паўстала Рада Нацыянальных Этнакультурных Арганізацыяў Канады (РНЭАК). У гэтую Раду ўвайшлі паасобныя этнічныя арганізацыі рэпрэзэнтаваныя іхнімі старшынямі. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК) стаўся сябрам гэтай арганізацыі ад пачатку ейнага існаваньня. Рэпрэзэнтавала ККБК ад імя ягонага старшыні др. Б. Рагулі, які жыве ў Лёндане (правінцыя Антарыё), жыхарка Атавы сп-ня Івонка Сурвіла. На сяньня Рада НЭАК налічвае 28 сяброў-арганізацыяў з усяе Канады. Гадавая складка ад кажнае арганізацыі — 200 даляраў.

Сёлета 8-га, 9-га й 10-га чэрвеня ў Таронце адбылася агульная канфэрэнцыя дэлегатаў РНЭАК. Кажная арганізацыя мела права паслаць на зьезд трох дэлегатаў. Дэлегатамі ад ККБК былі: старшыня др. Барыс Рагуля зь Лёндану, сакратар др. Раіса Жук-Грышкевіч з Бэры й сп-ня Івонка Сурвіла з Атавы.

Галоўным заданьнем зьезду было сфармуляваць сваю палітыку й дамаганьні, каб пасьля прадставіць іх Міністру Шматкультуралізму, унесьці папраўкі да прынятага ў 1980 годзе на арганізацыйным сходзе статуту РНЭАК ды правесьці выбары выканальнага камітэту.

Нарады адбываліся на працоўных сэсіях у гэтых пытаньнях: 1. Палітыка Шматкультуралізму й будучыня Канады; 2. Правы чалавека й расавыя ўзаемадачыненьні; 3. Мова, адукацыя й моладзь; 4. Здабываньне фондаў і дабрачынная дзейнасьць; 5. Заангажаванасьць ў палітыцы.

Паводля папраўленага статуту, Рада НЭАК праводзіць што другі год свае зьезды дэлегатаў, па тры дэлегаты ад кожнае арганізацыі; дзевяць, апрача гэтага, **Управа Старшыняў**, як цела праваданое (складаецца із старшыняў або іхных упаўнаважаных ад кожнае сябрыарганізацыі), ды **Выканальны Камітэт** у складзе дзевяцёх асобаў, якія выбіраюцца тайным галасаваньнем на агульным зьезьдзе РНЭАК.

У новы выканальны камітэт Рады НЭАК была абраная сп-ня Івонка Сурвіла.

Галоўнымі прамоўцамі на зьезьдзе Рады НЭАК былі Міністар Шматкультуралізму сп. Дэйвід Колэнэт, рабін Гунтэр Пляўт ды сп. Джэк Мурта, сябра Фэдэральнага Парлямэнту.

Дэвізам зьезду было — „Будаваньне агульнага паразуменьня". Заданьне гэта ня лёгкае, але вартае захадаў. Гэтак-жа як вартым захаду быў цікавы, жывы й карысны ўсім зьезд дэлегатаў Рады Нацыянальных Этнакультурных Арганізацыяў Канады.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## „ЗЬВЯЗДА": „БАЗА — ЦЭНТАР МАФІІ"

Газэта „Зьвязда", орган ЦК кампартыі Беларусі, пачала ад нумару за 3. VI. 1984 г. „цыкль палітычных гутарак доктара філязофскіх навук Л. Ф. Яўменава на тэму: ,Імпэрыялізм — вораг народаў' ".

У сваім другім артыкуле ў гэтай сэрыі Яўменаў піша, што „ў харале антыкамуністычнай прапаганды гучаць злобныя галасы буржуазна-нацыяналістычнай эміграцыі розных краін, пакаленьняў і часоў, у тым ліку й беларускай".

Яўменаў кажа, што ў ЗША „дзейнічае цэнтар нацыяналістычнай мафіі — БАЗА". Аўтар артыкулу называе беларускія выданьні ў Амэрыцы й Канадзе: „Зважай", „Беларус", „Беларускі Голас" ды кажа, што „шэраг адшчапенцаў беларускага народу дзейнічаюць на радыёрупары ЦРУ ,Свабода' ".

### УДЗЕЛ У ПОЛЬСКАЙ ПРАГРАМЕ

У Лёс Анджэлесе на сьвяткаваньні ўгодкаў польскай Канстытуцыі 3-га Мая, наладжаным Кангрэсам Амэрыканскай Палёніі ў сыботу 5-га травеня сёлета, сп. Н., сябра Арганізацыі Амэрыканцаў за Свабоду Паняволеных Народаў, у сваім выступленьні выказаў пажаданьне, каб Беларусь уважалася за суседні з Польшчаю край, а не Расея, ды каб была насьвятляная праўдзівая беларуская гісторыя, асабліва Акт 25 сакавіка і савецкі гвалт над Беларусяй.

### РОСТ БАПТЫСЦКАЙ АБШЧЫНЫ

Альшаны — вёска ў Столінскім раёне Берасьцейскае вобласьці, цэнтар сельсавету й калгасу. У Альшанах працуе сярэдняя школа. А ў школе, як і навокала яе, вядзецца антырэлігійная прапаганда. Вынікі гэтае прапаганды аднак не задавальняюць уладу. Рэспубліканская „Сельская газета" (9. VI. 84) наракае на абыякавае стаўленьне актывістаў атэізму да свае справы. Газэта піша:

„Памятаецца яшчэ ў шэсьцьдзесятых гадох, прыкладам, яны (г. зн. берасьцейскія й менскія вучоныя-атэісты — рэд. „Б-са") прадказвалі распад Альшанскае сэкты баптыстаў. Але гэтага ня здарылася. У чым тут рэч, якія прычыны ўступленьня ў абшчыну моладзі, што іх прываблівае да яе? Вось праблемы, якія развязвае цяпер раённы камітэт партыі.(...)

„У параўнаньні з пазалеташнім у леташнім годзе, узрос лік тых, што залічыліся ў сэкту. Толькі за першую палавіну году праз абрад вадзянога хросту прайшлі 64 чалавекі".

### АПІСАНЬНЕ „ЛІТОЎСКАЕ МЭТРЫКІ"

Сёлета выйшла ў Амэрыцы ў ангельскай мове кніга др. Патрышы Грымстэд-Кензды, якую яна напісала у супрацоўніцтве зь Ірэнай Сулкоўскай-Курасёвай, пад заг. „Адна́ляючы архівы Вялікага Княства Літоўскага: ,Літоўская Мэтрыка' ў Архівах Варшавы й Масквы". Кніга мае 500 старонак друку й каштуе 48 даляраў.

У кнізе, паводля каталёгу фірмы Орыентал Рысэрч Партнэрс (P. O. Box 158, Newtonville, Main 02160), зьмешчанае адрэдагаванае выданьне інвэнтару „Літоўскае Мэтрыкі", зробленага ў 1887 г. Пташыцкім, вялікі ўводны артыкул др. П. Грымстэд-Кензды з Гарвардзкага Ўнівэрсытэту ды паказьнікі. Кніга, напісаная ў выніку даўгое працы ў варшаўскіх і маскоўскіх архівах, становіць найбольш дэтальнае апісаньне архіваў дзяржаўнае канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага XV-XVIII стагодзьдзяў.

Вось што кажа Беларуская Энцыклапэдыя пра „Літоўскую Мэтрыку":

„ЛІТОЎСКАЯ МЭТРЫКА (польск. metryka — архіў), умоўная назва архіву канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага 14-18 ст.; важная гістарычная крыніца гісторыі Літвы, Беларусі, Украіны і расейскіх зямель, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ.

„Дакумэнты Літоўскае Мэтрыкі за 15 і большую частку 16 ст. на беларускай мове, пазьнейшыя на польскай і часткова лацінскай мовах. За 15-16 ст. зьберагліся ў копіях, за 17-18 ст. у арыгіналах.... Літоўская Мэтрыка — кнігі (каля 600) дакумэнтаў вялікага князя, паноў-рады, сэйму, замежных дзяржаваў, дзяржаўных установаў і асобаў ды інш.". э

# НА 60-ГОДЗЬДЗЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Народнаму пісьменьніку Беларусі Васілю Быкаву споўнілася 19 чэрвеня сёлета 60 гадоў жыцьця. Юбілей гэты быў шырака адзначаны ў савецкім друку, як у рэспубліканскім, гэтак і ўва ўсесаюзным.

Васілю Быкаву быў нададзены 18-га чэрвеня сёлета тытул Гэроя Сацыялістычнае Працы з уручэньнем яму ордэну Леніна й залатога мэдалю „Серп і Молат". Гэта — найвышэйшая ўзнагарода, якую савецкі пісьменьнік можа атрымаць.

Ёсьць пісьменьнікі, безь якіх цяжка ўявіць сабе літаратуру тае ці іншае краіны. Ёсьць гэткія пісьменьнікі й на Беларусі. І сярод іх у першым радзе стаіць Васіль Быкаў.

Больш за 30 гадоў творыць Васіль Быкаў у беларускай літаратуры. Напісаў шэраг аповесьцяў, колькі кінасцэнарыяў, апавяданьняў.

У кожнага пісьменьніка ёсьць свая галоўная тэма, у Быкава — гэта людзі мінулае вайны — іхныя пакуты, іхная духовая моц і духовая слабасьць. А таксама спэцыфіка ваенных і даваенных абставінаў, у якіх даводзілася жыць і змагацца, прычым змагацца не толькі з нямецкімі ворагамі, але й са злом, спараджаным савецкай сыстэмай.

Вайна — не выпадковая тэма ў Васіля Быкава. Быкаў — беспасярэдні ўдзельнік мінулае вайны. Апрача таго, хоць аб падзеях апошняе вайны ў Савецкім Саюзе пішацца шмат, ня ўсё аб гэтых падзеях пішацца сумленна й праўдзіва. Незадаволенасьць Васіля Быкава тым, што пісалі іншыя пра вайну, сталася цімалым стымулам у ягоным жаданьні сказаць пра вайну сваё слова суровае праўды. Адлюстраваньне ваенных падзеяў у творах Быкава вельмі адрознае ад таго, якое мы знаходзім у творах іншых савецкіх пісьменьнікаў. У быкаўскіх аповесьцях вы ня знойдзеце апісаньня масавых батальных сцэнаў, у якіх бралі-б удзел тысячы людзей, якімі камандавалі-б высокія палкаводцы, генэралы. Быкаў у сваіх творах дасьледуе чалавечыя характары, так сказаўшы, на нізох: у вобразах простых салдатаў, партызанаў, цывільных жыхароў акупаванае Беларусі; паказвае часамі дзяцей, якія змагаліся, пакуталі, плацілі сваю высокую цану за перамогу.

Васіль Быкаў выцягвае з вайны ўсё: і гэраічнае і здрадніцкае, дасягненьні й грахі ваеннага начальства; дасьледуе вытокі гэраізму й здрады, узлыму й падзеньня чалавека. Быкаў шукае ў дабрадзейнасьці — зла, а ў зьле — дабрадзейнасьці, у сутыкненьні палярнасьцяў — ісьціны. І прыгэтым пісьменьнік паказвае на тую няпрыкметную мяжу, якая стрымвае пэрсанаж застацца чалавекам, а не абарачацца ў нікчэмнасьць. Быкаў не саромеецца паказаць свайго гэроя ў часіну вялікага адчаю й слабасьці, у часіну напружанага пошуку выйсьця з трагічнага палажэньня, і не асуджае адкрыта свайго гэроя, калі той нешта робіць ня так, як гэтага вымагае савецкая афіцыйная догма й партыйнасьць. Пісьменьнік раскрывае вобраз, як кажуць, з усімі патрахамі, таму што піша пра чалавека, а чалавеку ўласьцівыя як гэраізм, гэтак і трусьлівасьць і памылкі.

Аповесьці Васіля Быкава — гэта творы пра малых людзей, але пра вялікую праўду. Іменна з прычыны таго, што Быкаў не баіцца расказаць праўду пра мінулую вайну, творы ягоныя, і ўпаасобку аповесьць „Мёртвым не баліць", падаваліся ў другой палавіне 1960-х гадоў рэзкай крытыцы ў савецкім друку. Быкаўская праўда пра вайну тады была непатрэбная вартаўнікам афіцыйнае вэрсіі ваенных падзеяў.

Ад таго часу прайшло блізу 20 гадоў. Цяпер пра гэткую крытыку ня вельмі ўспамінаюць савецкія літаратуразнаўцы й гісторыкі літаратуры, бо жыцьцё пацьвердзіла права на існаваньне твораў Васіля Быкава. Цяпер творы гэтыя карыстаюцца вялікай папулярнасьцяй як сярод савецкіх, гэтак і сярод замежных чытачоў. Творы беларускага пісьменьніка перакладзеныя ў шмат якія мовы сьвету, паводля іх ставяцца фільмы, опэры, балеты, робяцца спэктаклі, тэлевізійныя паказы й радыёперадачы.

Можна было-б працытаваць масу прыкладаў з прозы Васіля Быкава на довад таго, як пісьменьнік дакладна, востра й тонка раскрывае людзкія характары, як паварочвае да нас гэрояў з глыбокай праўдзівасьцяй, калі адзін позірк, усхліп, крык, выраз вачэй, шэптам выказанае слова, аддаюцца токам у нашай сьведамасьці.

Васіль Быкаў цікавы й арыгінальны ня толькі сваім стылем, сваёй здольнасьцяй скульптара людзкіх характараў, гэраічных і трагічных. Пісьменьнік валодае незвычайнай сьмеласьцяй узнаўляць факты вайны, ставіць праблемы ды змушаць чытача задумацца над імі.

Алесь Васілеўскі

## ВАЙНА Й МІР ВАСІЛЯ БЫКАВА

„У аповесьці ‚Мёртвым не баліць' — творы, у якім аўтар утаесамляе сябе найбліжэй зь ягоным апавядальнікам (гэроем аповесьці Васілевічам), Васілевічавы войстрыя й бескампрамісныя думкі ды выказваньні... спрычыніліся да таго, што твор не перавыдаваўся. Гэта асабліва далікатны мамэнт, бо аповесьць ‚Мёртвым не баліць' ня толькі з усіх дасюлешніх твораў Быкава найбольш адкрыта крытычная ў дачыненьні да сталінізму, але яна — таксама найзырчэйшы ды найбольш беспасярэдні прыклад зьвязваньня пісьменьнікам мінуўшчыны й сучаснасьці, вайны й міру". — **Праф. Арнольд Макмілін**, часапіс „Ді Вэльт дэр Слявэн", 1982.

## „НЕДАБРАЗЫЧЛІЎЦЫ" ВАСІЛЯ БЫКАВА

Паэт Пімен Панчанка, вітаючы на старонках газэты „Літаратура і Мастацтва" (15. VI. 1984) Васіля Быкава з 60-мі ўгодкамі жыцьця, прыгадаў недалёкую мінуўшчыну:

**„Жыцьцё ў Быкава было складанае і нялёгкае. Круціліся над нагамі недабразычліўцы і зайздроснікі, крытыканы і крыкуны, якія гарлалі: ‚Ізноў пра вайну? Трэба пісаць больш аптымістычна, пісаць пра мірнае будаўніцтва'. Былі і такія, што абвінавачвалі сумленнага савецкага пісьменьніка чорт ведае ў чым".**

Вось галасы некаторых „недабразычліўцаў" і „крыконоў":

**„Зьвязда"**, орган ЦК КПБ, 1 лютага 1966 г. (Якаў Гэрцовіч):

„. . . Варта сказаць і пра новую аповесьць В. Быкава ‚Мёртвым не баліць', якая апублікаваная ў часапісе ‚Маладосьць' (№№ 7 і 8 за 1965 г. — рэд. „Б-са"). Гэта ўвогуле таленавіты твор, напісаны спрактыкаванай рукой сталага майстра . . .

„Разам з тым насьцярожвае матыў асуджанасьці, які даволі часта прарываецца ў аповесьці. На фронце, як і ўсюды, перастрахоўка была шкоднай і непажаданай зьявай. У аповесьці ‚Пастка' стакоўчыя гэроі справіліся зь перастрахоўшчыкам і далі яму рашучы адпор. У аповесьці-ж ‚Мёртвым не баліць' дзясяткі людзей нават не пратэстуюць, калі штабны афіцэр Сахно зь меркаваньняў перастрахоўкі адчаго прымушае страляцца, другіх без патрэбы гоніць на верную сьмерць, трэйцім атручвае жыцьцё недарэчнымі пагрозамі. Празьмернай актыўнасьці гэтага мярзотніка і палахліўца не процістаўлены здаровыя сілы, якія маглі-б хоць у нейкай меры абясшкодзіць перастрахоўшчыка . . .".

**„Правда"**, орган ЦК КПСС, 17. IV. 1966 (В. Сеўрук):

„Аповесьць ‚Мёртвым не баліць' — няўдача аўтара. Аб гэтым трэба сказаць проста і бескампрамісна. Гэтая няўдача — вынік паважных ідэйна-эстэтычных пралікаў пісьменьніка".

**„Советская культура"**, орг. Мін. культ. СССР, 23. IV. 1966 (рэдакцыйнае паведамленьне):

„На пашыраным паседжаньні Камітэту да справаў друку (пры Савеце Міністраў СССР) узьнікла вялікая, прынцыповая гутарка аб адказнасьці выдацоў за высокую ідэйнасьць, партыйнасьць кожнае савецкае кнігі. Называліся факты. Беларускі часапіс ‚Маладосьць' апублікаваў, а маскоўскі часапіс ‚Новый мир' пасьпяшаўся перакласьці ў расейскую мову ды даць шырокую ўсесаюзную трыбуну шкоднай аповесьці Васіля Быкава ‚Мёртвым не баліць'".

**„Зьвязда"**, 28. IX. 1968, перадрук з газ. „Мінская Праўда" арт. І. Агеева:

„Надрукаваная ў майскіх нумарох ‚Маладосьці' і ‚Нового мира', гэтая аповесьць („Праклятая вышыня" — рэд. „Б-са") прыцягнула пільную ўвагу чытача. Аб ёй, як у свой час аб творы ‚Мёртвым не баліць', гавораць і спрачаюцца. Глыбакадумна маўчаць пакуль што толькі крытыкі, нясьпешна вырашаючы амаль гамлетаўскае пытаньне: сказаць ці не сказаць?

„А гаварыць аб аповесьці Васіля Быкава ‚Праклятая вышыня' трэба абавязкова . . .

„У творы пануе атмасфэра глухой безнадзейнасьці, пасыўнай скоранасьці лёсу. Прычым, гэта падкрэсьліваецца ня толькі розуманастроем гэрояў, але нават самым малюнкам прыроды . . .

„ ‚Праклятая вышыня' . . . абражае памяць старых салдат. Пісьменьнік напэўна ставіў перад сабой задачу, якая, гаворачы мовай Гэмінгуэя, заключаецца ў тым, каб у цэласьці данесьці да паперы людзей, якіх ён ведаў. Але ён ня здолеў у творы аднавіць дух тых дзён. У выніку панесьлі страты самі гэрої . . . Прыкры твор".

---

У наступным ліпеньска-жнівеньскім нумары „Беларуса" будзе зьмешчаны артыкул Я. Запрудніка „‚Мёртвым не баліць' Васіля Быкава" — пра другое выданьне аповесьці з цэнзурнымі „падгладжваньнямі" яе.

---

**В І Т А Е М !**

*Зь 75-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 26 чырвеня 1984 году,*

**ПРАФЭСАРА АНТОНА АДАМОВІЧА**

*— літаратураведа, пісьменьніка, журналіста, пэдагога, рэдактара, гісторыка й нястомнага палітычнага ды грамадзка-культурнага дзеяча. Выказваем найшчырэйшыя пажаданьні добрага здароўя і ўсякае памыснасьці як у асабістым, гэтак і ў прафэсійным жыцьці.*

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**
**Рэдкалегія газэты „Беларус"**
**Фундацыя імя П. Крэчэўскага**

## СУСТРЭЧА ЗЬ МІТРАПАЛІТАМ



**Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы, Архіепіскап Васіль зь візытам у Злучаных Штатах Амэрыкі.**

Сп. Канстантын Мярляк (на здымку зьлева), прадстаўнік Беларускага Праваслаўнага Прыходу сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле (Нью Ёрк), і др. Янка Запруднік, рэдактар газэты „Беларус", мелі сустрэчу зь Мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Васілём (Дарашкевічам). Сустрэча адбылася ў рэзыдэнцыі Мітрапаліта Амэрыканскае Праваслаўнае Царквы Тэадосія ў Саёсэце, штат Н. Ё., 29 траўня сёлета. Тэмай гутаркі было рэлігійнае жыцьцё Беларусаў у Польшчы й на Захадзе.

Уладыка Мітрапаліт у пасланьні, якое ён нагаварыў на йстужку, падзякаваў Беларусам на Чужыне за тое, што яны трымаюцца сваё роднае мовы й веры бацькоў ды перадаў блаславенства на мірнае й добрае жыцьцё. Уладыка Васіль сказаў таксама, што беларуская мова будзе ўведзеная ў календар ПАПЦ на наступны год ды што робіцца захады, каб гэтай мове была забясьпечаная большая роля ў рэлігійным жыцьці Беларусаў у Польшчы.

---

# ЯГАЙЛА

**(На 550-я ўгодкі сьмерці)**

Ад 1377 году вялікі князь, а пасьля — ад Крэўскай вуніі 1386 г. — найвышэйшы князь Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і кароль Польшчы, Ягайла памёр 1-га чырвеня 1434 году. З асобай Ягайлы зьвязаная ведамая Крэўская пэрсанальная вунія ВКЛ з Польшчай, якая была запраектаваная ў 1385 г. і юрыдычна аформленая ў наступным 1386 годзе.

У гістарыяграфіі розна тлумачыцца палітычнае значаньне Крэўскай вуніі ды падпісаных яшчэ пры жыцьці Ягайлы крыху пазьнейшых Віленска-Радамскай і Гарадзельскай вуніяў. Розна ацэньваецца і палітычны крок, зроблены тады вялікім князем Ягайлам.

У польскай гістарыяграфіі акт Крэўскай вуніі насьвятляецца ў асноўным як вялікі палітычны выйгрыш для абодвух бакоў: для Польшчы і для ВКЛ. І гэта ня толькі з гледзішча на ўдалае змаганьне з прускім Тэўтонскім ордэнам, але й таму, што быццам Польшча шмат дапамагла справе абароны ВКЛ на ўсходзе. Польская гістарыяграфія мае крыўду, што Ягайла не датрымаў сваіх абяцаньняў і не далучыў да Польшчы страчаныя раней землі: Сілезію, Памаранію і Хэльмінскую зямлю.

Старая польская гістарыяграфія, рэха якое гучыць і ў сучаснай, ня была пазбаўленая тэндэнцыі разглядаць Крэўскую вунію, і асабліва шмат пазьнейшую Люблінскую вунію, як акт „далучэньня" ВКЛ да Польшчы. На такую быццам гістарычную „спадчыну", як ведама, паклікаліся гэтак званыя польскія патрыёты і палітыкі, напрыклад, эпохі паўстаньня 1863 году або першай Сусьветнай вайны ды высоўвалі дэвіз аднаўленьня „Вялікай Польшчы" у межах да 1772 году.

На самой справе Крэўская вунія, а пагатоў крыху пазьнейшая Віленска-Радамская і Гарадзельская вуніі, былі ня актам нейкага „далучэньня", але саюзам дзьвюх раўнапраўных дзяржаваў пад вярхоўнай уладай аднаго манарха. Трэба адзначыць, што з прыходам да ўлады ў 1392 г. вялікага князя Вітаўта Ягайла, фактычна, быў адсунуты ад кіраваньня краінай і тытулам „найвышэйшага князя" карыстаўся фармальна.

А што-ж дала Крэўская вунія Беларусі? Тут можна прыгадаць гэткае выказваньне нашага ведамага этнографа й гісторыка Адама Кіркора. Пра гэтую вунію Адам Кіркор пісаў ў 1861 г., што „памылка аднаго чалавека, жаніцьба Ягайлы з выгаднага разьліку. . . пазбавілі Літву самастойнасьці й пэрспэктываў вялікай будучыні". Пад „Літвой" Адам Кіркор разумеў, пэўна-ж, Беларусь, бо й сам ганарыўся тым, што ён — „Ліцьвін".

Адам Кіркор у гэтым выпадку мае рацыю, але не ўва ўсім. Папершае, Ягайла ня гнаўся за польскай каронай, а яе яму паднесьлі, хоць Ягайла і жыў у эпосе, калі дынастычнае нагрувашчваньне ўлады бадай мела перавагу перад нацыянальна-дзяржаўнымі інтарэсамі. Падругое, як згадвалася, у выніку Крэўскай вуніі ВКЛ ня страціла самастойнасьці, і першапачаткова саюз з Польшчай адыйграў пазытыўную ролю. Прыгадаем хоць-бы Грунвальдзкую бітву 1410 году, якая падкапала сілы і спыніла агрэсію Прускага ордэну крыжакоў і Лівонскага ордэну мечаносцаў на ўсходзе.

Што-ж да гістарычных пэрспэктываў, дык Крэўская вунія мела для Беларусі адмоўныя і палітычна шкодныя вынікі. Не заглыбляючыся ў гісторыю міждзяржаўных спрэчак, зьвернемся, дзеля прыкладу, да эпохі гаспадараньня вялікага князя й польскага караля Казімера Ягайлавіча (1440 — 1492). Заняўшыся прапольскай дынастычнай палітыкай у Чэхіі й Вэнгрыі, Казімер занядбаў палітычныя інтарэсы ВКЛ на ўсходзе. З гэтага скарыстала Маскоўская дзяржава і далучыла да сябе Ноўгарадзкую рэспубліку ды Цьвярское княства, якія раней карысталіся самастойнасьцяй і часта былі саюзьнікамі ВКЛ. Узмоцненая тэрытарыяльна й палітычна, Маскоўская дзяржава хутка, менавіта ад 1492 году, пачне войны, якія будуць усё больш і больш тэрытарыяльна стратнымі для ВКЛ.

Або вось яшчэ прыклад Люблінскай вуніі, якая ў абставінах крывавай Лівонскай вайны з Маскоўскай дзяржавай у 1569 г. была, можна сказаць, накінутая ВКЛ. І хоць нацыянальны супраціў трываў і далей, аднак у выніку гэтай Люблінскай вуніі з Польшчай яшчэ больш распаліліся ў Княстве рэлігійныя склокі дый пачаўся працэс паступовай моўнай і культурнай палянізацыі беларускага народу, перш за ўсё магнатаў і шляхты, а таксама гараджанаў, што раней складалі касьцяк абаронцаў нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці.

Але вернемся да асобы вялікага князя Ягайлы і прычынаў, якія прывялі да афармленьня ім Крэўскай вуніі ВКЛ з Польшчай. Ягайла быў улюбёным сынам вялікага князя Альгерда, народжаным ад другой ягонай жонкі цьвярской князёўны Ульляны. У абыход сваіх старэйшых сыноў Альгерд і вызначыў Ягайлу ў якасьці свайго спадкаемца, што выклікала незадаваленьне старэйшых сыноў, народжаных ад першай Альгердавай жонкі, віцебскай князёўны Марыі Яраслаўны. Старэйшых сыноў у Альгерда было пяцёра, і ўсе яны займалі высокія пасады. Гэтак, Андрэй княжыў у Полацку, Дзімітры — у Бранску, Канстантын — у Чарнігаве і Ўладзімер — у Кіеве.

Прэтэнтэнтам на вялікакняжую пасаду быў у першую чаргу Полацкі князь Андрэй, які ў войнах Альгерда з Маскоўскім княствам адыйграў першарадную ролю. Але, выглядае, Андрэй быў у чымсьці правініўся, і ў год свае сьмерці вялікі князь Альгерд пазбавіў Андрэя Полацкага княства і накіраваў яго ў якасьці свайго намесьніка ў Пскоўскую рэспубліку.

Па сьмерці ў 1377 г. бацькі Андрэй не вярнуўся ў Полацак, але з сваім дваром і дружынай з Пскову адыйшоў у Маскву, дзе й пачаў ствараць саюз для змаганьня зь Ягайлам. Андрэя падтрымаў ня толькі маскоўскі князь Дзімітры Іванавіч, але й ягоны брат Дзімітры, які, як згадвалася, княжыў у Бранску ды быў адначасна гаспадаром у Ноўгарад-Северскай зямлі. Гэтая тройка й пачала пад канец 1379 г. супраць Ягайлы й Вялікага Княства ваенныя дзеяньні, зь якімі Ягайла справіўся ўзімку 1380 году, і справіўся, дзякуючы антымаскоўскаму саюзу з ханам Залатой Арды Мамаем.

(Працяг у наступным нумары)

**П. Залужны**

З ЖЫЦЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

## ДЗЕНЬ МАЦІ



Удзельніцы сьвяткаваньня Дня Маці ў Кліўленьдзе

Сьвята Дня Маці ў Кліўленьдзе заўсёды адзначаецца больш урачыста ўжо даўжэйшы час. Прычына гэтага ў тым, што маткі беларускае калёніі вельмі зарадныя й ахвярныя. У сямейным жыцьці яны моцна дбаюць пра дабрабыт, парадак, узгадаваньне дзяцей, а ў грамадзкім жыцьці бяруць актыўны ўдзел і дапамагаюць ахвярна ўсім арганізацыям калёніі: парафіі, аддзелу БАЗА, грамадзкаму цэнтру „Полацак“ у розных імпрэзах, а таксама ў рэпрэзантацыях навонкі. Таму Дзень Маці служыць добрай нагодай падзякаваць ім і ўшанаваць іх за вялікую й ахвярную працу.

Так і сёлета, парафіяльная рада Жыровіцкае Божае Маці й царкоўны прычт адзначылі ўрачыста Дзень Маці ў нядзелю 13 травеня. Адразу па сьв. Літургіі настаяцель а. Міхась Страпко адправіў малебен за матак калёніі й матак на бацькаўшчыне. У канцы сказаў добрую пропаведзь, падкрэсьліўшы вялікую й адказную ролю маці ў сямейным і грамадзкім жыцьці.

Па службах у царкоўнай залі адбыўся багаты й смачны абед, які падрыхтавалі малодшыя дзяўчаты й мужчыны. Маткі на абедзе былі ганаровымі гасьцямі й мелі вольны ўступ. Сёлета заміж прышпільваньня кветак, уручылі маткам кветкі ў вазонах, каб памяталі праз цэлы год. У часе абеду старшыня парафіяльнае рады С. Карніловіч прывітаў матак са сьвятам, злажыў шчырую падзяку за іхную ахвярную працу й дапамогу ў царкоўным і грамадзкім жыцьці, пажадаў добрага здароўя ім, іхным сям'ям, дабрабыту да супрацоўніцтва ў далейшай працы калёніі.

У канцы праграмы Грэгоры Мельнік высьвятліў гукавы фільм, які ён накруціў на Вялікдзень падчас працэсіі навокал царквы, а таксама ў часе вялікоднае службы ў царкве. Гэта выклікала вялікае зацікаўленьне ў прысутных, бо змаглі пабачыць службу, сябе й іншых на фільме.

Хоць надвор'е было дажджлівае, аднак Дзень Маці прайшоў у вясёлым настроі да вечара. Варта зазначыць, што ў сёлетнім сьвяткаваньні вялікі ўдзел узялі малодшыя маткі із сваімі дзецьмі.

**К. П.**

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

Парафіяльнае сьвята патронкі царквы Жыровіцкае Божае Маці, адбылося сёлета 20 травеня. У канцы багаслужбы настаяцель а. Міхась Страпко сказаў прыгожую казань на тэму цудатворнага абраза Жыровіцкае Божае Маці, зьяўленьня Яго, пабудовы царквы й манастыра на тым месцы. Айцец Міхась падкрэсьліў, што ў гэты дзень мы думкамі спалучаемся з нашымі суродзічамі ў Жыровічах на Беларусі, якія там так урачыста абходзяць гэтае сьвята. Божая Маці дапамагала нам тут на эміграцыі заснаваць Беларускую Аўтакефальную Царкву, сказаў а. Міхась, таму мы павінны прыходзіць у царкву маліцца й дзякаваць Ёй за дапамогу й апеку над намі.

У часе супольнага абеду старшыня црkоўнае рады С. Карніловіч вітаў усіх з парафіяльным сьвятам, падзякаваў за прыбыцьцё на яго незважаючы на дрэннае надвор'е (заля была запоўнена), шчыра падзякаваў жанчынам за наладжаньне так добрага абеду.

Сп. Калоша сказаў, што сьвяткаваньне цудатворнага абраза Божае Маці ў Жыровічах цяпер адбываецца вельмі ўрачыста. У службах бяруць удзел епіскапы, шмат сьвятароў, а вернікі зьяжджаюцца з далёкіх ваколіцаў Беларусі. Хоць Усьпенскі сабор вялікі, аднак усе ня могуць зьмясьціцца ў ім і амаль такая самая колькасьць вернікаў стаіць навокал царквы.

Сьвяткаваньне трывала доўга й прайшло ў вясёлым настроі ды закончылася малітвай.

**К. П.**

## УШАНАВАНЬНЕ АЙЦА МІХАСЯ

У нядзелю 10 чэрвеня сёлета, пасьля ўрачыстых службаў на Сёмуху, парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе ўшанавала настаяцеля а. Міхася Страпка й матушку Натальлю. Нагодаю ўшанаваньня было тое, што Першы Ґіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай 27 травеня ў часе багаслужбы ў Гайленд Парку ўзнагародзіў а. Міхася набедранікам. Парафіяльная рада пастанавіла прывітаць яго з узнагародай і адначасна ўшанаваць ад парафіі, наладзіўшы абед. Старшыня рады сп. С. Карніловіч, прывітаўшы прысутных з сьвятам Сёмухі, прывітаў дастойнага а. Міхася з узнагародай, падзякаваў яму за вялікую й ахвярную працу, якую ён праводзіць у парафіі й калёніі, пажадаў добрага здароўя й посьпехаў у працы на будучыню ды ўручыў падарункі а. Міхасю й матушцы Натальлі. Ад жанчын прывітала сп-ня Т. Кананчук і ўручыла кветкі матушцы. Ад царкоўнага хору прывітаў сп. Калоша й падзякаваў за добрае супрацоўніцтва ў службах і адначасна запэўніў, што харыстыя надалей будуць старацца выконваць сумленна свой абавязак на службах. Ад Украінцаў прывітаў сьвятар суседняй царквы й старшыня рады.

Айцец Міхась падзякаваў усім за прывітаньні, за неспадзеўку ўшанаваньня, наладжаньне прыняцьця ды запэўніў, што й надалей будзе працаваць шчыра для дабра парафіі й беларускае калёніі. Праграма закончылася супольным адсьпяваньнем а. Міхасю й матушцы Натальлі „Многая лета“.

**К.**

### 50 НУМАРОЎ БЮЛЕТЭНЮ

Старшыня ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Аляксандар Міцкевіч, каб трымаць лучнасьць зь сябрамі аддзелу ды падахвочваць іх да грамадзкае працы, пачаў выдаваць ад 26 лютага 1982 году невялічкі бюлетэнь „Весткі й паведамленьні Аддзелу БАЗА Нью Ёрк“. 15-га чырвеня сёлета выйшаў 50-ты нумар бюлетэню.

### СЯРОД ЛЕПШЫХ У НЬЮ ЁРКУ

На выстаўцы лепшых славянскіх кніжак у Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы паказаная таксама беларуская кніга „Жывапіс Беларусі XII-XVIII стагодзьдзяў. Фрэска. Абраз. Партрэт“. Вялікага фармату кніга-альбом выдадзеная выдавецтвам „Беларусь“ у Менску ў 1980 годзе. Уступны тэкст да кнігі Н. Ф. Высоцкае дадзены ў шасьцёх мовах: беларускай, расейскай, ангельскай, французкай, нямецкай і гішпанскай.

# КАНФЭРЭНЦЫЯ ШМАТКУЛЬТУРАЛІЗМУ КАНАДЫ

„Будучыня належыць да нас усіх!“ — гэта кліч Усеканадзкай Канфэрэнцыі ў справе Шматкультуралізму, што адбылася 25, 26 і 27 травеня 1984 г. ў Тароньце.

Таронта, як выразіўся ў сваёй ключавой прамове Міністар Шматкультуралізму сп. Давід Колензт, вельмі адпаведнае месца для гэтай канфэрэнцыі, бо 60% яго жыхарства складаюць не Англасаксы й Французы. Таронта таксама добры прыклад культурнай і расавай шматграннасьці Канады.

У канфэрэнцыі бралі ўдзел сябры Канадзкай Рады Шматкультуралізму, прадстаўнікі этнічных групаў — ад Беларусаў дэлегатам была сяброўка ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч — ды галоўнае вядучыя прадстаўнікі й спэцыялістыя ў галінах культуры, камунікацыі й бізнэсу. Прамоўцамі на пленарных сэсіях, якіх было чатыры, былі: Міністар Шматкультуралізму сп. Давід Колензт, кіраўнікі фінансавых карпарацыяў і трэстаў, унівэрсытэцкія прафэсары, прадстаўнічка Аб'еднаных Нацыяў, выдавец „Монтрэаль Газэты“, дырэктар Стратфардзкага Тэатру, прадстаўнічка „Канада Каўнсіл“, дырэктары двух этнічных тэатраў, дырэктар Нацыянальнага Музэю Чалавека.

Характэрны для канфэрэнцыі быў факт, што ня толькі сярод дэлегатаў, але й сярод дакладчыкаў быў вялікі працэнт жанчын і прадстаўнікоў відавочных меншыняў.

Фэдэральная палітыка шматкультуралізму, абвешчаная ў 1971 г. Прэм'ерам П'ерам Трудо, праводзіцца цяпер галоўна ў пяцёх кірунках: захаваньне культураў, разьвіцьцё меншыняў, міжкультурная камунікацыя (узаемадзеяньне між культурамі), сацыяльная справядлівасьць ды датарнаваньне да прынцыпаў палітыкі шматкультуралізму розных інстытуцыяў. Зь іх найважнейшую ролю выконваюць тры катэгорыі інстытуцыяў — інстытуцыі культуры, камунікацыі ды бізнэсу. Вось чаму на канфэрэнцыю былі запрошаныя кіраўнікі й спэцыялістыя гэтых установаў.

На пленарных і працоўных сэсіях абмяркоўваліся пытаньні, як паасобныя ўстановы павінны працаваць, каб найлепей адлюстроўваць шматкультурны й шматрасавы характар, каб праводзіць у жыцьцё палітыку шматкультуралізму, галоўнай мэтай якое — не раўняць усіх, а даць усім роўныя магчымасьці, каб будучыня належала да ўсіх жыхароў Канады. Падкрэсьлівалася значэньне веданьня моваў, наяўнасьць на вышэйшых становішчах людзей розных культураў і расаў, выкарыстоўваньне іхных талентаў. Характэрны прыклад: Калі канадзкая дэлегацыя ў складзе блізу 50 чалавек вяла гандлёвыя перамовы зь японскай дэлегацыяй такога-ж складу, дык выявілася, што ў канадзкай дэлегацыі толькі двух ведалі японскую мову, а ў японскай усе ведалі ангельскую. У гэткіх выпадках ня толькі веданьне мовы, але й азнаёмленасьць з культурай данае краіны мае зьялікае значэньне. Гаварылася аб вывучэньні ў школах і спадчынных моваў, аб патрэбе сацыяльнай справядлівасьці, аб змаганьні з усякага роду дыскрымінацыяй.

Каб ужыцьцёвіць ідэю, што „Будучыня належыць да нас усіх“, патрэбная ня толькі адпаведная дзяржаўная палітыка — яна ёсьць, — патрэбная перш-наперш жыцьцядзольнасьць данае этна-культурнае групы, бо будучыня належыць толькі да жыцьцяздольных, тых, хто горды за сваю спадчыну, хто за яе змагаецца.

Што да Беларусаў, дык яшчэ ў XIX-м стагодзьдзі Францішак Багушэвіч заклікаў і ўсьцяж заклікае нас: „Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!“

Канфэрэнцыя закончылася канцэртам Канадзкага Фэстывалю Спадчыны ў Рой Томсан Гол.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# НА АТАЎСКІМ ФЭСТЫВАЛІ

Гадавы „Фэстываль Бацькаўшчынаў“ у сталіцы Канады Атаве, у якім беларуская грамада сталіцы брала ўдзел пяты раз ужо, адбыўся 27-29 красавіка ў атаўскім гарадзкім цэнтры Ляндсдаўн Парк. Сёлетні фэстываль, у якім узялі ўдзел 39 нацыянальных групаў, быў прысьвечаны двухсотгодзьдзю правінцыі Антарыё.

Беларускі павільлён складаўся зь дзьвюх частак. Першая, пад назовам „Беларусь — краіна, адкуль мы паходзім“, знаёміла наведвальніка з нашай гісторыяй нашымі вялікімі людзьмі, звычаямі ды нашым цудоўным народным мастацтвам. На цэнтральным вялізарным стале, навокала букету вялікоднае вярбы ў беларускім збанку ды расьпісаных нашымі суродзічамі ў Чыкага вялікодных яек (якія прыцягвалі шмат увагі наведвальнікаў сваім прыгаством і арыгінальнасьцяй) ляжалі пышныя посьцілкі, ручнікі, вышыванкі ды вырабы з саломкі нашага мастака Міколы Шуста, зь якіх асаблівай увагай карыстаўся інкруставаны саломкай стол, адмыслова зроблены для сёлетняга беларускага павільлёну.

Другая частка нашае выстаўкі была прысьвечаная беларускаму жыцьцю ў канадзкай правінцыі Антарыё, дзе якраз і знаходзіцца найбольш Беларусаў. Тут віталі наведвальніка „беларускія ўсьмешкі“: сэрыя вялікіх каляровых партрэтаў нашых дзяўчат у Антарыё. Наагул цэлая сьцяна, прысьвечаная Антарыё, была ўскрытая здымкамі вялікіх памераў, якія адлюстроўвалі нашую тут дзейнасьць, наш уклад у жыцьцё Канады, нашыя дасягненьні.

На стале, пакрытым беларускімі посьцілкамі, ляжаў інфармацыйны матар'ял пра Беларусаў Антарыё. Наведвальнік мог азнаёміцца, між іншага, з падручнікам беларускае мовы для англамоўнага чытача Валянтыны Пашкевіч, з творамі тарантаўскае пісьменьніка Кастуся Акулы, англамоўнай гісторыяй Беларусаў Канады Янкі Садоўскага, а таксама з выказваньнямі пра нас іншых людзей. У гэтай частцы павільлёну быў стол з сувэнірамі. Тут трэба прызнаць вялікі ўклад сям'і Хрэноўскіх, якая прыгатавала на фэстывалю беларускія кашулі (T-shirts), вышываныя падушачкі для голкаў, папяльнічкі ды расьпісаныя вялікодныя яйкі. Як ведама, шмат каму выстаўка цікавейшая, калі на ёй можна што-небудзь набыць.

Удзел у „Фэстывалі Бацькаўшчынаў“ кожны раз вымагае шмат працы й намаганьняў. Першая зборка арганізатараў чарговага фэстывалю ды прадстаўнікоў нацыянальных групаў адбываецца дзесьці ў рыхтаваньні папярэдняга году. У далейшым зборкі стаюцца ўсё часьцейшымі ды вымагаюць усё больш і больш працы. Сёлета наша група брала актыўны ўдзел у рэклямаваньні фэстывалю, у ягоным плянаваньні, а таксама ў спатканьнях з журналістамі.

Затое шмат задаваленьня дае час самое выстаўкі. Тут ёсьць нагода спаткацца із шмат якімі цікавымі людзьмі, у тым ліку й зь Беларусамі. Быў, прыкладам, выпадак калі гутарка вялася паміж маладым Беларусам, які нарадзіўся ў Ленінградзе і ў Канаду прыехаў ужо хлапчуком, а таму ніколі ня меў нагоды навучыцца па-беларуску, ды Беларусам, які хоць і нарадзіўся на Беларусі й адчувае вялікую любасьць да свае бацькаўшчыны, але выехаў зь сям'ёю ў Польшчу ў 10-гадовым веку ды там і вучыўся, а цяпер іміграваў у Канаду. Гаворка вялася папольску. У групцы стаялі таксама двое канадзкіх Беларусаў паваеннае эміграцыі, якія нарадзіліся ўжо на Захадзе, але абое гавораць пабеларуску, нацыянальна сьведамыя. Назаўтрае ў павільлёне памагала Беларуска із старое эміграцыі, перадваеннае. Бацькі ейныя прыехалі ў Канаду дзеля рэлігійнага перасьледу ў царскай імпэрыі. Яна нарадзілася ўжо тут, вельмі актыўная ў тутэйшым грамадзкім жыцьці. Усе Беларусы, але колькі розных жыцьцёвых шляхоў! . .

Як і кожнага году, былі й сёлета ў нашым павільлёне людзі, якія шукалі, хто яны . . .

Карыстаю з гэтае нагоды, каб падзякаваць усім нашым суродзічам, якія не пашкадавалі высілкаў у рыхтаваньні й дагляданьні нашага павільлёну або прыслалі свае сямейныя скарбы, каб гэтым спрычыніцца да нашага ўдалага ўдзелу ў „Фэстывалі Бацькаўшчынаў“.

**Івонка Сурвіла,**
**каардынатар беларускага ўдзелу ў Фэстывалі.**

## ВЫСТАЎКА ГАЛІНЫ РУСАК



У гор. Нью Ёрку ў галерэі СОГО-20 адбылася ад 26 травеня да 20 чырвеня сёлета выстаўка абразоў беларускае мастачкі Галіны Русак, адзначаная прафэсійнай прэсай. Творчасьць Галіны Русак адлюстроўвае багатыя народныя традыцыі Беларусі, перадаваныя з пакаленьня ў пакаленьне галоўна рукамі жанчын (ткацтва й вышыўка). У новай сэрыі палотнаў мастачкі перададзеныя найбольш матывы беларускага ткацтва, што дайшлі да нас яшчэ з часоў сярэднявечча й Рэнэсансу, у тым ліку й слуцкія паясы. У малюнках удала спалучаныя геамэтрычныя формы зь беларускай фаўнай і флёрай (васількі, мальвы, канюшына, шыпшына, дзьмухавец; зубры, буслы). У шырокай гаме калёраў, ад шэрага да зырка чырвонага, пераважаюць стрыманыя тоны.

Мастацтва Галіны Русак глыбака ўкарэненае ў беларускім прыродным навакольклі ды ў беларускіх гістарычных і народных традыцыях. Абразы Галіны Русак — вынік узаемадзеяньня чалавека, прыроды й гістарычнае мінуўшчыны — сымбаль цеснае й трывалае павязанасьці мастачкі з навакольным і духовым сьветам, у якім фармавалася ейная сьведамасьць і адкла-адкладаліся вобразы.

## ДАКЛАД ПРА БЕЛАРУСКАГА ТРЫСТАНА

28-га чырвеня сёлета ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку сп-ня Зора Кіпель прачытала рэфэрат на тэму „Беларускі рукапіс XVI-га стагодзьдзя ‚Повесьці аб Трыстане'“.

Рыцарская аповесьць аб каханьні Трыстана й Ізольды, створаная ў XII стагодзьдзі — клясычны твор у шмат якіх заходніх літаратурах. Беларускі варыянт аповесьці быў напісаны, як мяркуюць, у 1580-х гадох. Сп-ня Зора Кіпель займаецца цяпер кампаратыўным вывучэньнем рукапісу аповесьці: стылю, мовы ды сюжэтных асаблівасьцяў беларускага варыянту.

## 40-ГОДЗЬДЗЕ РАЗЬВІТАНЬНЯ

У чырвені месяцы споўнілася 40 год ад часу, калі бальшыня з нас пакінула дарагую для нас Бацькаўшчыну-Беларусь.

Каб адзначыць гэтыя ўгодкі й падзяліцца думкамі аб мінулым, гурток „Васілька“ ў Брадфардзе (Ангельшчына) наладзіў у нядзелю 1-га ліпеня „Дзень успамінаў“. Па багаслужбах, адпраўленых Мітр. Прат. а. Янкам Абабуркам, у Беларускім Доме быў прачытаны даклад на тэму дня, пасьля чаго адбылася сяброўская бяседа.

**М. Віценчык**

## „ЗВАЖАЙ“ № 2(34)

У гэтым нумары (чырвень 1984 г.). часапісу Беларускіх Вэтэранаў: Артыкулы: „Сорак“; В. Сянькевіч — „У 190-я ўгодкі антымаскоўскага паўстаньня ў Беларусі“ (працяг); В. С. — „Беларуская Вайсковая Рада“ (працяг); „Вас ашукаюць...“. Хроніка; некралёгі.

BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11432. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year.

# ON THEIR WAY UP

### FRANCIS ANTON BARTUL



Anton, son of Francis and Vera Bartul, completed his studies at Manhasset High School (Long Island, N. Y.). For four years Anton played first trumpet in the school's band. This fall he will be going to the University of Colorado, in Boulder, Colorado studying in the field of pharmacology. Anton has been a member of the United States Swimming Association for twelve years, currently belonging to the Hofstra Aquatic team. This summer he is lifeguarding at Rockaway Beach. Anton enjoys water skiing, surfing, is an avid winter skier, and a former member of the Vasilok Dance Group.

### PEGGY BYCZKOWSKI



Peggy graduated from South River High School (New Jersey). Peggy was a cheerleader, treasurer of the Spanish Club, and a member af the German Club. She was also on the newspaper staff, tennis team, and student council. This honor student intends to attend Kent State University in the fall.

### LILLIAN JACEWICZ



Lillian graduated as an honor student from South River High School. She was president of both the Nurses Club and the Sophomore class. Lillian was vice president of the student council and the Freshman class. She also belonged to the Spanish club, German club, Marching Band, Symphonic Band, and girls' track team. Lillian will be attending Rutgers University in the fall.

### ALEX JAHAUDZIK

Alex, the older son of Mikola and Valentine Jahaudzik, graduated from Brakesville High School. This fall Alex will begin studies at Ohio University in Athens, specializing in electrical engineering. Alex attended Byelorussian community school and serves as altar boy.

### DANIEL JARACHOVICH

Daniel, youngest son of Astap and Olga Jarachovich, graduated from Saint Edward High School (Cleveland, Ohio). This fall he will begin studies at Lorraine Community College. Daniel attended the Byelorussian Saturday School and is a former altar boy.

### LILLIAN KOSCIUK



Lillian graduated from Montclair State College (New Jersey) with a Bachelor of Arts degree. She was an Administrative Assistant and an orientation leader. Lillian was also the secretary of the Dormatory Council and was a volunteer worker with handicapped children. She plans to go into a career of retail management.

### CRISTINA KOSZEGHY



Cristina graduated with military honors from the United States Air Force Academy. She is with the Fourth Group Wing Commander and is currently in navigational training in Sacramento, California.

### PAUL KOSZEGHY

This Regents Scholarship winner graduated from Plainview Old Bethpage High School (Long Island, N.Y.). He was the swim team captain and a champion diver in Nassau county. Paul also belonged to the Decca club and the Social Services club. He will be attending Lehigh University in the fall.

**Have news to share with us? All welcome! Please send to above address.**

## TWENTIETH ANNUAL SPORTS MEET
### AT RESORT BELAIR-MIENSK

On the weekend of July 28, 1984 Sports Weekend will be held at the Belair-Miensk resort in Glen Spey, New York. Activities will include high jump, swimming, shot-put, and volleyball. Saturday evening, beginning at 9:30 PM, you are invited to dance to the music of Mr. Lenny Rudzinski and his orchestra. Please make reservations prior to July 20, 1984 by phoning 914-856-8532 between the hours 10-12 AM or 6-8 PM.

### ELENA LUKJANCZUK



Elena, daughter of Anatol and Natalie Lukjanczuk, completed her bachelor's degree studies at Ohio State University in the field of communication and public relations. She is now working for Bermuda Star Cruise Lines. Although Elena lived far from Cleveland, in Conneaut, Ohio, she kept close ties with the Cleveland youth. She often visited the church and took part in Byelorussian events. She frequently accompanied, on piano, the choir during concerts at Byelorussian gatherings.

### VINCENT ROY MIERLAK



Vinnie graduated as an honor student from Stuyvesant High School in New York City. Vinnie received numerous awards and honors, including the following: award for excellence in Advanced Placement Physics, certificate of excellence for senior thesis, certificate of honor in mathematics, scholarship award — gold certificate, citation on scholastic achievement by the NY State Governor's Committee, and an award for exhibit in Exposition on Energy Resources by the National Energy Foundation and a citation for achievement by the American Institute of Science and Technology.

Vinnie also won an award for outstanding achievement in Symphony Orchestra (he played flute in Stuyvesant's Woodwind Quintet which won a citywide competition sponsored by the Lincoln Center Chamber Music Society). Vinnie is an active member of the Byelorussian-American Youth Organization and is a long time member of the Vasilok Dance Group.

### KATHERINE MIRANOWICH



Kathy completed her studies at South River High School, where she was a cheer leader and the Homecoming Queen of 1984. She was also a member of the Student Council, Spanish Club, school band and the softball team. Kathy has already begun attending Florida State University.

### VICTOR EDWARD NAJDZIUK



Victor, son of Caslau and Juzefa Najdziuk, graduated from Pater Noster High School in Los Angeles, California. Victor was a recipient of the California Grant A State Scholarship and two university scholarships the Elks Scholarship and the University of California, Santa Barbara Award. He successfully participated in his school's track and field team. Victor will be attending the University of California in Santa Barbara majoring in the field of mathematics.

### DEBORAH NAUMCZYK

Deborah graduated from South River High School where she was a member of the cheer leading squad. Deborah plans to attend Middlesex County College in the fall.

### PAVAL ROMANO



Paval, older son of Frank and Alla Romano, graduated as an honor student from Manhasset High School. Paval placed in the top ten percent of the National Advanced Physics examination and was a strong voice in the school's chorus. This fall he will continue his education at New Jersey's Rutgers University, studying computer science and mathematics. Paval is an active member of the Byelorussian-Amercan Youth Organization and has been physically active since childhood. For the past eight years he has been a member of the United States Swimming Association, and a member of the Vasilok Dance Group for ten years.

### NINA SICKO

Nina completed her bachelor's degree at Rutgers University in New Jersey, where she majored in ceramic engineering.

### GEORGE TOLMACHEWICH



George, second son of Vasil and Sophie Tolmachewich, graduated from South River High School and now plans to begin a career as an electrician. George enjoys outdor activities such as hunting and fishing.

### LUCY VALUKIEVICH



Lucy, the younger daughter of Vasil and Kathy Valukievich, completed her Bachelor's degree at Cleveland State University in the field of social services for rehabilitation of the blind. Lucy obtained a position as an instructor (orientation and mobility) at the Pittsburgh Blind Association in Pennsylvania. She was an active participant in the Byelorussian-American Youth Organization, was elected to the branch committee, and was a member of both the dance group and the folk embroidery club.

## PARTICIPANTS IN AN HISTORIC EVENT

The Vasilok Dance Group was honored to be included in a program saluting the Statue of Liberty's Centennial Celebration. The National Park Service (U.S. Department of the Interior) is sponsoring ethnic festivals for the next three years as one means of honoring the 100th year birthday of the statue, which will occur in 1986.

On Saturday June 9th Vasilok put on an energetic show consisting of four numbers: Lavonikha, Polka Vasilok, Shapki, and Karahod. They did so under less than optimal conditions, such as temperature nearing one hundred degrees and a stage that relentlessly tried to trip the dancers. This valiant troupe did not let these adverse conditions affect their joy of performing, which was apparent and infectious to the crowd of spectators.

## SECOND KUPALLE DANCE
### WILL THERE BE A THIRD?

The festive atmosphere at the Community Center Hall in South River, New Jersey, on the evening of June 23rd was accentuated by the attractively decorated hall, the soothing yet stimulating music of the band, and the mirrored ball which added its own special touch. The sponsors of the evening, the Byelorussian-American Youth Organization, would like to thank those who came to celebrate the festivities. We hope you enjoyed the evening and that next year you will bring friends to join the fun. Our special appreciation and thanks go to the Bachar family who opened their home to us and selflessly gave of their time. We promise that next year hotel reservations will be made well in advance.

The efforts of our Byelorussian youth to sustain the native heritage should be applauded and supported. Much planning and work is required in order to offer such an evening for your enjoyment. We thank those people who came to share our evening and hope that next year we will see faces that were missed this year.

**Vera Zaprudnik**
**Secretary BAYO**